# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 3 (625)**
**Сакавік 2018 г.**


**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) і**
**Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “ПАГОНЯ”**
маюць гонар запрасіць Вас на ўрачыстую акадэмію, банкет і канцэрт, прысьвечаны 100-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці

## БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Імпрэза адбудзецца ў нядзелю **25-га сакавіка 2018 году** а **12.30** гадзіне папаўдні ў ***Ballroom*** гатэлю ***Hyatt Regency*** па адрасу:
***2 Albany Street, New Brunswick, New Jersey 08901***.

Перад імпрэзай а 10:00 раніцы адбудзецца сьвяточнае набажэнства ў царкве сьв. Маці Божае Жыровіцкае БАПЦ па адрасу: ***9 River Road, Highland Park, New Jersey 08904***.

Квіткі па замове **$60**, **$50** студэнтам. Квіткі пры дзьвярох **$70**, **$60** студэнтам. Просім замовіць квіткі загадзя, да ***18-га сакавіка 2018 г.*** Чэкі выпісвайце на ***Belarusan-American Association, Inc***. з пазнакаю *“100 год БНР”* і дасылайце на адрас: ***262 White Birch Rd, Edison, NJ 08837***

Дадатковую інфармацыю можна даведацца патэлефанаваўшы сп-ні **Натальлі Федарэнка *(347) 543-4388*, сп. Юрку Азарку *(732) 560-8610*, сп. Віталю Зайку *(917) 606-8291.***

# Пікет ля консуляту Рэспублікі Беларусь у Нью-Ёрку

У нядзелю 4-га лютага ў Нью-Ёрку на Мангэтане каля консуляту Рэспублікі Беларусь адбыўся пікет супраць уціску свабоды і правоў чалавека ў Беларусі і ў падтрымку дэмакратычных сілаў, якія супрацьстаяць антынацыянальнай дыктатуры. Ініцыятарам пікету выступіла Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня”.

Удзельнікі акцыі выступілі ў падтрымку свабоды слова ды іншых грамадзянскіх правоў і свабодаў, патаптаных рэжымам Лукашэнкі, узьнялі свой голас у падтрымку змаганьня апазыцыйных сілаў у Беларусі, супраць блякаваньня сайту Хартыі-97, спробаў аднавіць “дэкрэт аб дармаедах” і супраць перасьледу беларускіх дэмакратычных сілаў.

Удзельнікі акцыі выйшлі да консуляту Беларусі з плакатамі “Хартыя” – гэта мы”, “Свабоду “Хартыі-97”, “Немагчыма заблякаваць праўду!”. З прамоваю выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка.




Блізу ста чалавек, што сабраліся на акцыю, затым прайшлі маршам ад будынку, дзе месьціцца консулят Беларусі, да пляцоўкі перад штаб-кватэрай Аб’яднаных Нацыяў. Луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, гучэлі поклічы “Жыве Беларусь!”, “Belarus – YES! Lukashenka – NO!”, “Freedom to Belarus!”

***Віталь ЗАЙКА***

# Лютаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу 10 лютага ў Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў лютаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку імпрэзы старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і распавёў пра імпрэзы ў Нью-Ёрку, што рыхтуюцца да 100-годзьдзя Незалежнасьці Беларусі й абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Усім рэкамэндавана сачыць за аб’явамі на старонцы “Пагоні” ў Фэйсбуку. Прамоўца спыніўся на патрэбе сьвяткаваць менавіта 100-годзьдзе Назалежнасьці Беларусі, бо гэтае паняцьце шырэй і глыбей за падзеі, зьвязаныя выключна з БНР.

Затым для гасьцей было паведамлена пра мэты і прынцыпы арганізацыі і яе бягучую дзейнасьць, якая ўлучае падтрымку беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы, сяброўскія імпрэзы і сьвяткаваньні, у тым ліку традыцыйныя абрады Гуканьне Вясны і Купальле, а таксама мітынгі ды іншыя акцыі ў падтрымку свабоды і дэмакратыі ў Беларусі. Акрамя гэтага “Пагоня”, па меры сваіх магчымасьцяў, дае інфармацыю ды іншую дапамогу ў справе зьмены статусу ў ЗША. Рэгулярныя сходы арганізацыі зьяўляюцца сьціплай, але сталай пляцоўкай для калегаваньня і сацыялізацыі сяброў і гасьцей “Пагоні”.

Сп. Зайка таксама звярнуў увагу прысутных на публікацыі “Пагоні”, штомесячны інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні” і календары.

Затым з гутаркаю пра гістарычную канцэпцыю Беларусі выступіў сп. Зьміцер Левіт. Ён закрануў праблему саманазову беларусаў, узгадаў Русь і Літву, прывёў апінію вядомага дасьледчыка Усходняй Эўропы Тыматы Снайдара. З дапаўненьнямі й пытаньнямі выступілі Віктар Едзіновіч і Віталь Зайка.

У разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб’явы і паведамленьні, адбыліся знаёмствы з гасьцямі арганізацыі. Затым у неафіцыйнай частцы ўдзельнікі сходу маглі працягнуць знаёмства пры сьціплых пачастунках. Файная сяброўская атмасфэра, што панавала на сустрэчы, спрыяла таму, што тыя новыя людзі, нядаўна прыляцеўшыя ў Амэрыку, адкрыта і ахвотна распавядалі пра сябе, навязвалі міжасабовыя кантакты. На сходзе было шмат моладзі.

***Віталь ЗАЙКА***

# Кніга Максіма Багдановіча ў Чэхіі

Přetržený náhrdelník: výbor z díla/Bahdanovič Maxim; Vybral, uspořádal, z běloruštiny přeložil a komentařem opatřil Max Ščur; Do češtiny přebásnil Jan Frolík. – Praha: Národní knihovna České republiky – Slovanská knihovna, 2017. – 118 s., il.

**Восеньню 2017 году ў сталіцы Чэхіі Празе, якая зьяўляецца ня толькі геаграфічным, але і культурным цэнтрам Эўропы, выйшла кніга выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча.**




Максім Багдановіч быў адным з заснавальнікаў беларускай літаратуры і сучаснай літаратурнай беларускай культуры. Але ў часе свайго жыцьця ён выдаў толькі адзін аўтарскі зборнік паэзіі “Вянок” ў 1913 годзе. У часы СССР, незалежнай дэмакратычнай Беларусі (1991-1995 гады) і ў прыватнасьці ў псэўдадэмакратычнай Беларусі (пасьля 1995 году) было выдадзена некалькі кніг зь ягонай творчай спадчынай, але ў Эўропе ў перакладзе на чэскую мову паэзія Максіма Багдановіча выйшла асобнаю кнігаю ўпершыню, што, на маю думку, ёсьць значным прарывам у папулярызацыі беларускай літаратуры ў Эўропе.

Акрамя таго вельмі цікава і тое, што кнігу Максіма Багдановіча “Разарваныя каралі” (у перакладзе з чэскага арыгіналу) упарадкаваў і пераклаў вядомы беларускай эміграцыі ў ЗША сталы аўтар літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “Беларус” Максім Шчур.

Кніга выдадзена Нацыянальнай бібліятэкай Чэскай Рэспублікі – Славянскай бібліятэкай, а фатаздымак Максіма Багдановіча, выкарыстаны ў кнізе, узяты з фондаў Літаратурнага музэю Максіма Багдановіча ў Менску.

***Алег ПАЎЛІЎ***

# Што дыяспара робіць для Беларусі? Зьбіраем інфармацыю разам

Сёньня па-за межамі Беларусі жыве больш за 3,5 мільёны беларусаў. Тое, што гэта багаты патэнцыял для разьвіцьця нашай краіны – цяпер ужо агульнапрызнаны факт, і адно з яскравых сьведчаньняў гэтаму – дзяржаўная заклапочанасьць азначанай сфэрай. У 2014 годзе быў прыняты, ініцыяваны Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, Закон Рэспублікі Беларусь № 162-З “Аб беларусах замежжа”. Таксама дзейнічае падпраграма “Беларусы ў сьвеце” ў рамках дзяржаўнай праграмы “Культура Беларусі” на 2016–2020 г.

Дасьледчыкі беларускага замежжа адзначаюць шырокую геаграфію беларускай прысутнасьці ў сьвеце і насычанасьць беларускага жыцьця за мяжой. Яны цешацца, што матэрыялаў для працы дасьледчыкаў хопіць яшчэ не на адно пакаленьне іх наступнікаў. Разам з тым “Бацькаўшчына” пераканалася ў нізкай абазнанасьці грамадзтва і супрацоўнікаў дзяржустаноў як пра істотны ўнёсак дыяспары ў разьвіцьцё беларускай прысутнасьці ў розных краінах сьвету, гэтак і пра дапамогу зь яе боку самой Беларусі.

Даць хуткі адказ на пытаньне “Што дыяспара робіць для Беларусі?” цяжка яшчэ і таму, што паведамленьні пра гэта альбо не трапляюць у СМІ, альбо губляюцца ў плыні навінаў і папросту забываюцца. Праект ЗБС “Бацькаўшчына” “Дыяспара для Беларусі” (**https:// zbsb.org/info**) мае на мэце запачаткаваць і разьвіваць адмысловы цэнтралізаваны рэсурс, агрэгатар інфармацыі пра найбольш значныя посьпехі беларусаў-замежнікаў якраз у справе дапамогі самой Беларусі, як краіне, так і асобным ініцыятывам, установам і проста людзям.

Інфармацыя, якую мы сабралі і прапануем да Вашай увагі зараз – толькі па

***заканчэньне на бачыне 3***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## “Весяліла ты мяне на чужой старане”

Працягваючы тэму дуды, заўважу, што хоць сярод амэрыканскіх беларусаў не аб’явілася ні дудароў, ні дудаў, то замілаваньне да гэтага інструмэнту напоўніцу праявілася ў творчасьці эмігранцкага пісьменьніка Кастуся Акулы. Ён нарадзіўся ў вёсцы Верацеі на Глыбоччыне ў 1925 г. Падчас нямецкай акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Глыбокім і працаваў у Порплішчанскай сямігодцы, але большую частку жыцьця правёў і пісаў у Канадзе. У асноўным творы Акулы – “Гараватка” – дуда ня толькі грае, але і выконвае ролю магутнага сымбаля, што зьнітоўвае падзеі ўсяго раману-трылёгіі.

Гараватка – гэта ўзвышэньне, гара каля вёскі Літоўцы (якая хутчэй за ўсё атаясамліваецца зь Верацеямі, хоць непадалёк ёсьць і сапраўдная вёска Літоўцы, а мястэчка Гаці, што згадваецца ў кнізе, – гэта насамрэч Крулеўшчына). Гараватка сымбалізуе ўсю “гаротную” Беларусь, а пасярод узвышша расьце дубволат Архіп (як у папулярнай песьні: “Павесілі дуду На зялёным дубу”). Падобны да дуба, сымбаль-постаць трылёгіі – дзед Якуб, які раскрывае перад хлопчыкам Януком дзівосны сьвет. Менавіта дзед Якуб расказвае маlому гісторыю пра добрага князя Гаравіка: “Паплыла пра гаспадарства князя слава далёка й шырока, бо пры ўмелай гаспадарцы і народ багацеў і князю самому ўдастатак было. Поўна ў засеках было, ды золата і ўсякага багацьця ў скарбніцы князёвай. Адным словам, чулі пра яго блізка й далёка. Свае лірнікі й дудары піялі пра яго й славілі яго, чужыя ж на край і людзей зь вялікай прагавітасьцяй глядзелі й мячы вайстрылі”.




*Зборнік народных песень*
*Нью-Ёрк, 1970*

Вельмі часта ў першай кнізе трылёгіі апісаньні прыгожых краявідаў чаргуюцца з гукамі дуды: “Сонца хілілася на захад, і хлапец ведаў, што за гадзіну дзесь пачнецца перадвячорная сымфонія: пасьмялеюць птушкі на полі й у лесе, загудзіць бяроставая дуда ліпавіцкага пастыра Хвядоса, што быў стары й усімі навакольнымі пастухамі паважаны ня толькі за ўмелае граньне, а й за тое, што аж двох падпаскаў меў; у бары пачнуць свае трэлі салаўі й розная птушыная дробязь, вялікую чуб-карону Архіпа абсядуць галкі ці груганы, каб разгледзецца, што адбываецца навокал”. Праўда, незразумела, ці “бяроставая дуда” тут называецца ў значэньні бяроставай дудкі (пастушкоўскай дудкі з раструбам, звычайна зь бярösты. У трэцяй кнізе згадваецца пад назвай “бяроставая труба”). Але тады чаму аўтар не выкарыстоўвае слова “дудка”, а менавіта “дуда”? Магчыма, што ў розных месцах згадваюцца два розныя інструмэнты: “У яго (Хвядоса) іх ні адна (дудка)”. Магчыма, што Хвядос грае і на дудзе, і на бяроставай дудцы. Гэта пацьвярджаецца і чарговымі апісаньнямі: “На полі зазьвінеў першы жаўранак. Дзесь голасна сакатала курыца, рыпелі асьверы, чуваць быў раньні гоман пастухоў, што гукалі, выганяючы на поле статак. Спачатку надта ж асьцярожна, потым сьмялей загудзела дуда ліпавіцкага пастыра Хвядоса. Гудкае мэлядыйнае рэха пракацілася па скарбовым лесе, расплылося ў літоўскіх начоўках”.

Пазьней хлопчык Янук сам пачынае вучыцца граць на дудцы (тут ужо выразна – бяроставая дудка), якую выпрасіў у ліпавіцкага Хвядоса, і ў хлопца добра атрымліваецца. Дзяўчына Дуня нават жартам пытаецца ў яго, ці не зьбіраецца ён зрабіцца музыкам.

У другой кнізе, у якой польскі прыгнёт замяняецца бальшавіцкім, дуда таксама пачынае гучаць сымбалічна па-новаму: “Здавалася, што запаволенае жыцьцёвае тэмпа плыло нармальна. Адылі варта было прыгледзіцца й прыслухацца вёсцы, павандраваць па ваколіцы, зазірнуць на нівы, у гумны, вечарам дзе на прызьбе прысесьці, як няцяжка спанатрыць, што ў глыбіні запаволенага пульсу жыцьця адчувалася затоенае трывожнае дыханьне. Навет дуда Хвядосава надарваным голасам цягнула”. Перамена настрою і нарацыі заўважная і па больш даслоўных фармулёўках: “Ня ўсьпеў Антось як сьлед на лаве расьсесьціся, як шырака, з гукам адчыніліся дзьверы й малады, прысядзісты, шыракаплечы чалавек з каўказкім тварам убег у пакой. Бачыў Антось яго раней. Сьледчы паклікаў каўказца на помач, калі Антось адмаўляўся танцаваць пад бальшавіцкую дудку”. Разам з прыходам бальшавікоў мяняецца і культурны ляндшафт, дуду замяняюць “баян і балалайка”.

У трэцяй кнізе, якая апісвае лёсы вяскоўцаў падчас Другой сусветнай вайны, дуда не гучыць зусім. Рэдкія згадкі пра яе адносяцца звычайна да ўстойлівых выразаў: “...апрануўшы новы касьцюм із такімі сьмешнымі цяпер порткамі, – калошы як тонкія дудкі...”, “Шыш, дудкі, браце!”. “Навет пастух Хвядос, ня маючы чаго пасьвіць, трымаўся дзесьці наседжанага кута і ўжо ня вітала ўсходу сонца ягоная бяроставая труба. Тымчасам ня было яшчэ нямецкага загаду адносна гаспадаркі зямель”.

Тэма дуды ў трылёгіі Кастуся Акулы, безумоўна, вартая асобнага дасьледаваньня. Менавіта гэты інструмэнт стварае “фон” і пункт адняcеньня для падзей у рамане. У другой кнізе пры апісаньні прамовы Сталіна пісьменьнік прыводзіць вобраз пузыра: “...калі здавалася, што вось-вось пырсьне занадта надзьмуханы вялікі барані пузыр...” Дарэчы, аўтарам гэтага тэксту была запісаная гутарка з амаль стогадовай бабай Юзэфай (вёска Асецішча Докшыцкага р-на), якая згадвала пра мясцовага дудара, як той граў на дудзе з бараняга трыбуха... Вельмі цікава было б “вызначыць” геаграфічны напрамак, з якога даносіцца Хвядосава дуда, то бок адказаць на пытаньне, да якой рэальнай мясцовасьці адносяцца Ліпавічы: “З боку Ліпавічаў вецярок прынёс сумна-працяглыя гукі Хвядосавай дуды. У Януковым сэрцы нарастаў жаль. Праз сьлёзы ён нічога ня бачыў”. Вельмі імаверна, што Ліпавічы сымбалізуюць яшчэ адно “дударскае сяло” на Глыбоччыне.

***Віталь ВОРАНАЎ***

## Што дыяспара робіць для Беларусі? Зьбіраем інфармацыю...

*заканчэньне з бачыны 2*

чатак для своеасаблівай “энцыкляпэдыі”, бо мы аднавілі далёка ня ўсё, што зрабілі для краіны нашыя суродзічы з замежжа. Мы ведаем гэта дакладна! Таму звяртаемся да вас з просьбаю распавесьці, што вам вядома пра дапамогу Беларусі з боку дыяспары.

“Што дыяспара робіць для Беларусі?” Давайце разам распавядзем пра гэта самім сабе і ўсяму сьвету!

***Інфармацыйны цэнтар МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”***

Сёлета ў Глыбокім пройдзе ўжо другі Міжнародны фэст дударскіх рэгіёнаў

## “Дударскі рэй – 2018”

Турыстычнай канторай ***Belarus Direct*** створаная адмысловая прапанова для ангельскамоўных гасьцей фэсту. Калі нехта ў гэты час будзе на радзіме або адмыслова прыляціць у Беларусь, то ***Belarus Direct*** можа паклапаціцца пра вас ад прылёту ў Менск, праз удзел у фэсьце, да самага адлёту зь менскага лётнішча. Усё гэта каштуе прыкладна **$250**.

Прапанова, напэўна, скіраваная больш на замежнікаў, але беларусы Амэрыкі могуць стаць тымі, хто параіць такую форму адпачынку тым сваім амэрыканскім сябрам, якія даўно шукалі нагоду, каб наведаць Беларусь.

Больш пра фэст тут: ***www.facebook.com/DudarskiRej***




### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

**В. Барцэвіч** ................ 60
**К. Буяр** ................ 60
**А. Валейша** ................ 60
**З. Гамаюнаў** ................ 60
**К. Гаўрыленка** ................ 60
**Д. Калесьнік** ................ 60
**Я. Кобак** ................ 60
**І. Кудзінаў** ................ 60
**А. Куклеўскі** ................ 60
**А. Лышчык** ................ 60
**Ю. Мятлюк** ................ 60
**Ю. Парамонава** ................ 60
**П. Пацэнка** ................ 60
**К. Пратасеня** ................ 60
**Я. Равоцька** ................ 60
**А. Рускоў** ................ 60
**Г. Саенка** ................ 60
**А. Саковіч** ................ 60
**П. Скрабко** ................ 60
**С. Стрэльчанка** ................ 60
**М. Троцкая** ................ 60
**А. Ціхонічаў** ................ 60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”** *Viktar Yedzinovich.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **10-га сакавіка 2018 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі* ***L, N, Q, R, W, 4, 5, 6*** *да прыпынка* ***Union Square****.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад* ***Union Square*** *па* ***15-й вуліцы*** *на скрыжаваньні з* ***Irving Place****.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы сайт* ***pahonia.com***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich****.*

*Падпіску таксама можна аформіць наведаўшы сайт* ***www.e-krama.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня ***Весткі й Паведамленьні*** :

**В. Барцэвіч** ................ 30
**К. Буяр** ................ 30
**А. Валейша** ................ 30
**К. Гаўрыленка** ................ 30
**Д. Калесьнік** ................ 30
**Я. Кобак** ................ 30
**І. Кудзінаў** ................ 30
**А. Куклеўскі** ................ 30
**А. Лапцёнак** ................ 30
**А. Лышчык** ................ 30
**Я. Мятлюк** ................ 30
**Ю. Парамонава** ................ 30
**П. Пацэнка** ................ 30
**А. Пранцэвіч** ................ 30
**К. Пратасеня** ................ 30
**Я. Равоцька** ................ 30
**А. Рускоў** ................ 30
**А. Рэўко** ................ 30
**Г. Саенка** ................ 30
**А. Саковіч** ................ 30
**П. Скрабко** ................ 30
**С. Стрэльчанка** ................ 30
**В. Сямчук** ................ 30
**М. Троцкая** ................ 30
**А. Ціхонічаў** ................ 30
**А. Ярмаловіч** ................ 30

**Шчыры дзякуй!**

*Паважаныя* ***І. Акулаў, А. Мядзьведзеў, А. Чафранаў,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце* ***e-krama.com***